# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Выданьне
Арганізацыйнага камітэту
Беларускага Народнага Фронту
за перабудову "Адраджэньне"

## БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»


## ДА ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ

Адозва Арганізацыйнага камітэту
Беларускага Народнага Фронту
за перабудову "Адраджэньне"

Чацьвёрты год у СССР ідзе перабудова, распачатая лепшымі сіламі КПСС. Наш народ успрыняў гэтую справу як сваю крэўную, як адзіную магчымасьць вырвацца з эканамічнага застою, замацаваць сацыяльную справядлівасьць, аднавіць ленінскія прынцыпы нацыянальнай палітыкі, вырашыць вострыя экалагічныя праблемы, разьняволіць творчыя стваральныя сілы чалавека. Галоўная перашкода на шляху дэмакратычнага і гуманнага абнаўленьня -- адміністратыўна-камандная сістэма кіраваньня ва ўсіх сьферах грамадскага жыцьця.

Насьпела пільная патрэба стварыць сапраўднае народаўладзьдзе. "Не народ зроблены для ўраду, а ўрад для народу," -- пісаў змагар за народную волю Кастусь Каліноўскі.

19 кастрычніка 1988 г. у сталіцы Беларусі Мінску на ўстаноўчым сходзе Беларускага гісторыка-асьветніцкага таварыства памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралог Беларусі" быў утвораны Арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне", у які ўвайшлі: Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Анатоль Грыцкевіч, Уладзімір Конан, Зянон Пазьняк, Пімен Панчанка; Алег Белавусаў, Алесь Бяляцкі, Анатоль Варава, Вінцук Вячорка, Ніл Гілевіч, Павел Дзьмітрук, Юры Дракахруст, Міхал Дубянецкі, Алесь Емяльянаў, Вячаслаў Жыбуль, Яўген Кулік, Мікола Купава, Адам Мальдзіс, Аляксей Марачкін, Валеры Масьлюк, Пятро Садоўскі, Алесь Суша, Сымон Сьвістуновіч, Кастусь Тарасаў, Міхась Ткачоў, Алег Трусаў, Генадзь Тумаш, Ігар Чарняўскі, Міхась Чарняўскі, Яўген Шунейка, Васіль Якавенка.

Беларускі Народны Фронт за перабудову "Адраджэньне" /БНФ "Адраджэньне"/ ствараецца грамадзянамі рэспублікі незалежна ад нацыянальнасьці, партыйнасьці і веравызнаньня; грамадзянамі, якія падтрымліваюць справу перабудовы, дэмакратызацыі і нацыянальнага адраджэньня, асуджаюць мінулую і сучасную практыку сталінізму і застою.

БНФ "Адраджэньне" падтрымлівае і праводзіць у жыцьцё распачатую лепшымі сіламі КПСС перабудову грамадства на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму.

БНФ "Адраджэньне" выступае за дэмакратыю, за рэальную ўладу народа, супраць манаполіі ўлады бюракратычных сіл у любой сьферы жыцьця.

БНФ "Адраджэньне" -- за рэальны суверэнітэт Беларусі, абвешчаны Канстытуцыямі БССР і СССР.

БНФ "Адраджэньне" -- за поўны рэспубліканскі гаспадарчы разьлік і адкрытае абмеркаваньне ўсіх пытаньняў эканамічнага жыцьця рэспублікі, за падпарадкаваньне эканомікі інтарэсам чалавека, за сацыяльную справядлівасьць.

БНФ "Адраджэньне" -- супраць усялякага гвалту над асобай, за непарушнасьць правоў чалавека, за прававую дзяржаву.

БНФ "Адраджэньне" -- за экалагічна чыстую Беларусь.

БНФ "Адраджэньне" -- за адраджэньне і дзяржаўнасьць беларускай мовы.

БНФ "Адраджэньне" -- за аднаўленьне праўдзівай, навуковай гісторыі Беларусі.

БНФ "Адраджэньне" -- за ўсебаковае разьвіцьцё культуры беларускага народа.

БНФ "Адраджэньне" -- за свабоднае разьвіцьцё моваў і культур усіх нацыянальнасьцяў, што жывуць на Беларусі..

ГРАМАДЗЯНЕ!

Стварайце групы падтрымкі Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"!

Арганізацыйны камітэт
Беларускага Народнага Фронту
за перабудову "Адраджэньне".

## РЭКАМЕНДАЦЫІ

па стварэньні групаў падтрымкі
Беларускага Народнага Фронту
за перабудову "Адраджэньне"

Беларускі Народны Фронт за перабудову "Адраджэньне" будзе складацца з апорных групаў людзей, якія справай падтрымліваюць палітыку перабудовы, распачатую лепшымі сіламі КПСС.

Групы падтрымкі БНФ "Адраджэньне" ствараюцца для вырашэньня мясцовых і агульнанацыянальных праблем. Найпершая задача групаў падтрымкі -- змаганьне за дэмакратызацыю ў сваіх калектывах, у гарадах і вёсках, за рэальны ўдзел грамадскасьці ў прыняцьці жыцьцёва важных рашэньняў, за экалагічна чыстае асяродзьдзе, за пашану да кожнай нацыянальнай культуры і мовы, за рэалізацыю прынцыпаў дэмакратычнага жыцьця грамадства.

Групы падтрымкі ўдзельнічаюць ва ўсіх справах БНФ "Адраджэньне", у абмеркаваньнях законапраектаў, у рэферэндумах, у выбарчых кампаніях, пасьлядоўна адстойваюць лінію на перабудову.

Групы падтрымкі ствараюцца на прадпрыемствах, па месцы жыхарства, у таварыствах, самадзейных аб'яднаньнях і г. д.

Групы падтрымкі ствараюцца грамадзянамі незалежна ад іх нацыянальнасьці, партыйнасьці і веравызнаньня. Вызваленыя партыйныя, камсамольскія і прафсаюзныя кіраўнікі могуць быць толькі радавымі членамі групаў падтрымкі.

Група падтрымкі паведамляе пра сваё стварэньне з указаньнем арганізацыі ці месца, дзе яна створана, яе адраса, тэлефона, а таксама колькасьці сяброў /членаў/.

Група падтрымкі БНФ "Адраджэньне" лічыцца ўтворанай пры наяўнасьці ў ёй трох асоб.

Просім паведаміць, якім чынам Ваша група магла б удзельнічаць у распрацоўцы праграмы БНФ "Адраджэньне", які б уклад магла ўнесьці ў ажыцьцяўленьне мэтаў Народнага Фронту. Аргкамітэт БНФ "Адраджэньне" будзе аказваць метадычную дапамогу групам падтрымкі.

